ЧАСАПІСЬ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНА-СЬВЯДОМАГА СТУДЭНЦТВА
МЕНСК № 8 / 1989 ЛІПЕНЬ

# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА



П.М.

## Беларускі сьцяг

Узьвіўся горда, вольна ў небе
Бел-крывава-белы Сьцяг –
Ён нястатны народнай сьведка
І яго цяжкай долі знак.

Ідзі пад гэты Сьцяг прыгожы,
Каму свой родны дораг кут.
Даволі Брэсьці ў бездарожжы, –
Трэ' скінуць путы злых пакут!

Пад сьцягам гэтым мы адважна
Пазбавім край ад ланцугоў.
Прайдуць вякі, і нас уважна
Успомніць грамада братоў.

1923.

## БЕЛАРУСКАЯ ПРАГРАМА МІРУ

1. Беларусь ёсьць мірнаю рэспублікай.
2. Беларусь ня мае войска, міліцыі/паліцыі/ ды іншых збройных фармаваньняў.
3. На тэрыторыі Беларусі няма войскаў ці іншых вайсковых фармаваньняў іншых краінаў.
4. Беларусь не вырабляе і не зьбірае зброі на сваёй тэрыторыі.
5. Падчас канфліктаў бліжніх краінаў спакой у рэспубліцы падтрымлівае войска ААН.
6. Грамадзяне Беларусі ня служаць у чужых войсках/за выключэньнем войска ААН/, не падтрымліваюць іх матар'яльна й маральна.
7. Унутраны парадак падтрымлівае няўзброеная прафэсійная арганізацыя.

Запрапанаваная рэдакцыяй "Студэнцкае Думкі" паводле матар'ялаў літоўскага /жмудскага/ студэнцкага нефармальнага друку.

# АНГЕЛЬСКІ ДРУК ПРА «СТУДЭНЦКУЮ ДУМКУ»

THE TIMES HIGHER EDUCATION SUPPLEMENT 17.2.89

## Byelorussians demand study goes native

Students of the Byelorussian Institute of Technology in Minsk have drawn up a programme for the "Byelorussianization" of teaching at the institute within the next three academic years.

the signs in the institute from Russian to Byelorussian.

It then envisages publishing the institute's news-sheet in Byelorussian, the establishment of a Byelorussian

### БЕЛАРУСЬ ПАТРАБУЮЦЬ, КАБ НАВУЧАНЬНЕ БЫЛО НА РОДНАЙ МОВЕ

Студэнты Менскага тэхналягічнага інстытуту стварылі праграму "беларусізацыі" навучаньня ў інстытуце на наступныя тры навучальныя гады.

Беларуская мова фактычна зьнікла, як мова навучаньня — за выключэньнем хіба некалькіх вясковых пачатковых школаў і філялягічнага факультэта ва ўнівэрсытэце. Да апошняга часу трывогу за лёс мовы можна было выказваць толькі ў публікацыях "самвыдавецтва". Спроба аднаго са студэнтаў адзьдзяленьня філязофіі абараніць дыплём па-беларуску прывяла толькі да таго, што была распушчана навуковая група, у якую ён уваходзіў.

Публічнасьць абвастрыла моўнае пытаньне ва ўсім Савецкім Саюзе. Патрабаваньні надаць нярускім мовам у рэспубліках статус дзяржаўных разглядаецца як зварот да "сапраўднае Ленінскае" палітыкі. Тыя рэспублікі, якія прасунуліся далей у перабудове як, напрыклад, Эстонія, ужо зрабілі папраўкі ў сваіх Канстытуцыях.

На Беларусі аднаўленьне функцыянаваньня беларускае мовы патрабуе Беларускі Народны Фронт за перабудову, заснаваны мінулае восені, а таксама камісыя афіцыйнага Савецкага Фонду Культуры, чые радыкальныя прапановы былі фармальна "прынятая" ў красавіку мінулага года, але афіцыйна не былі апублікаваныя.

Студэнты Менскага інстытуту не захацелі чакаць афіцыйных рашэньняў. Іхні плян, які складаецца з 10-ці пунктаў, апублікаваны ў адным з нумароў новага неафіцыйнага часопіса "Студэнцкая Думка" і да выданьня якога яны заклікаюць далучыцца ўсіх студэнтаў, пачынаецца з таго каб памяняць усе надпісы ў інстытуце з расейскай на беларускую мову.

У пляне /праграме/ прадугледжваецца выданьне інстытуцкага інфармацыйнага лістка па-беларуску, адкрыцьцё ў інстытуце беларускай бібліятэкі, увядзеньне абавязковых курсаў беларускай мовы, літаратуры і гісторыі, увядзеньне беларускай мовы як мовы выкладаньня ў экспэрэмэнтальных групах з 1990 года і пераход да дзьвюхмоўнай сыстэмы навучаньня зь верасьня 1991 года.

Студэнты не заклікаюць да поўнага зьнікненьня расейскае мовы з інстытуцкіх праграмаў, але тыя курсы, якія чытаюцца ў інстытуце па-расейску, мусяць чытацца і па-беларуску. /У праграме прапануецца чытаць па-беларуску тыя курсы, дзе вучыцца 70 адсоткаў студэнтаў беларусаў/

Для ажыцьцяўленьня поўнай праграмы, ведама, спатрэбіцца падтрымка зьверху і шмат сродкаў — новыя падручнікі, тэрміналягічныя слоўнікі, лябараторныя і наглядныя дапаможнікі, неабходныя курсы для выкладчыкаў, якія дапамогуць ім зьмяніць мову выкладаньня. Студэнты, што будуць навучацца па-беларуску, мусяць мець гарантыю, што атрымаюць месца працы ў БССР на тры гады "накіраваньня", якім савецкія студэнты адплочваюць дзяржаве за адукацыю.

Урэшце рэшт, шанцы ажыцьцяўленьня гэтае праграмы залежаць ад таго ці гатовая Масква даць дазвол нярускім рэспублікам разьвіваць сваю этнічную самабытнасьць. Але пан Гарбачоў увесь час падкрэсьлівае, што перабудова павінна ісьці зьнізу і не чакаць дырэктываў зьверху. Беларускія студэнты-тэхнолягі злавілі яго на слове.

# І ЯШЧЭ АДЗІН ПОГЛЯД ВАЧАМІ АНГЕЛЬЦАЎ

### СЬЦЕРАЖЫСЯ ПАТРЫЯТЫЧНЫХ КЛЮБАЎ

Мы здабылі сакрэтную інструкцыю Савецкай Камуністычнай партыі, як змагацца з новай хваляй нефармальных "патрыятычных клюбаў", якія, на думку прыхіль-

/працяг на бачыне 12/

# ВЫ НАС АБУДЖАЛІ

Шаноўныя чытачы, сёньня мы хочам пазнаёміць Вас з самвыдавецкім часопісам "Гутарка", які хадзіў па руках у 70-ыя гады. Выдаваў часопіс ці як у ім пісалася "гутарку вёў Сымон Беларус". Трэба належным чынам ушанаваць сьмеласьць аўтара, які хаця й не ў часы сталінскага генацыду, але ў гады ня менш страшныя — у гады калі імпэрыя была шчыльна ўкрытая трывалай сеткай турмаў і лягероў, у гады калі сотні палітвязьняў таміліся ў дамох для страціўшых розум, будзіў нас да дзеі. Гутаркі Сымона Беларуса, кнігі Уладзімера Караткевіча, дзесяткі іншых зерняў ня зьніклі дарма, яны абудзілі нас ад цяжкага сну. Дзякуй Вам. Спадзяемся, што шчырыя гутаркі Сымона Беларуса застануцца ў нашай гісторыі і хутка мы даведаемся сапраўднае імя аўтара.
А далей рэй весьці нам.

Рэдакцыя "Студэнцкае Думкі"

АБ УСІМ,ШТО БАЛІЦЬ

N 11/18/-12.3-1976
МЕНСК

ТОЛЬКІ ГУТАРКА ХОДЗІТЬ ТАКАЯ
Я.КУПАЛА

```
**********************
*                    *
*   Г У Т А Р К А    *
*                    *
**********************
```

ПРА ЗЬМЕСТ І ФОРМУ

Няма большай недарэчнасьці, як вядомая формула, што сьцьвярджае: "Нашая культура зьяўляецца сацыялістычнай ( раней казалі "пралетарскай ") па зьмесьце і нацыянальнай па форме. Але яе бясконца паўтаралі і працягваюць паўтараць, што мы нават і перасталі заўважаць яе бессэнсоўнасьць.

Сапраўды. Форма вызначаецца зьместам, і таму нацыянальная форма павінна вынікаць з нацыянальнага зьместу, а не зь якога-небудзь іншага. Так яно было, ёсьць і будзе. Любая вялікая культурная каштоўнасьць заўсёды зьяўляецца нацыянальнай і па зьмесьце і па форме.

Але тады паўстае пытаньне: для чаго ж прыдумана гэтая бессэнсоўная форма? і для чаго яна так шырока прапагандуецца? Адказы на гэтыя пытаньні і ўскрываюць яе практычнае прызначэньне.

Шырока рэклямуецца гэтая формула менавіта таму, што яна бессэнсоўная. Патрэбна было, каб яе засвоілі, як нешта бясспрэчнае і відавочнае. І гэта ўдалося. На падставе гэтай формулы і пачалася барацьба з нацыянальным зьместам. І ён быў сапраўды выхалашчаны. У гэтым галоўная прычына шэрасьці і бяздарнасьці, якія запанавалі ў нашай літаратуры і мастацтве. Але гэта і патрэбна было. Аўтары формулы меней за ўсё дбалі аб разьвіцьці нацыянальнай культуры. Яны больш думалі пра тое, каб зьменшыць яе ўплыў на народ і канчаткова яе зьнішчыць. І гэта не прымусіла сябе доўга чакаць. Выгнаўшы нацыянальны зьмест, яны ўзяліся зараз за паступовую ліквідацыю нацыянальнае формы. Бо ў нацыянальнай форме яны бачаць у той ці іншай меры выяўленьне нацыянальнай сьвядомасьці, што іх асабліва страшыць, у чым яны бачаць адну з найгалоўнейшых сваіх небяспек.

Вось у чым практычны сэнс гэтай бессэнсоўнай формулы.

## ПРА ЦЭНТРАЛІЗАЦЫЮ, ДЭЦЭНТРАЛІЗАЦЫЮ І ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЮ

У гісторыі савецкага грамадзтва нельга не заўважыць кіданьня ад цэнтралізацыі да дэцэнтралізацыі і наадварот. Варта толькі прыгадаць, яшчэ не забытыя саўнаргасы і іх скасаваньне, каб пераканацца ў гэтым. У чым жа тут прычына?

4 Справа ў тым, што і цэнтралізацыя, і дэцэнтралізацыя зьяўляюцца формамі выражэньня інтарэсаў розных сацыяльных групаў нашага "бяскласавага" грамадзтва. Калі так, то давайце разьбяромся, хто ў нас за цэнтралізацыю і хто за дэцэнтралізацыю.

Як гэта ні дзіўна, за цэнтралізацыю ў нас стаіць самая шматлікая наша класа-працоўны народ, хоць ад яе ён больш за ўсе і цярпіць. Але гэта заканамерна. Забіты, палітычна адсталы народ здольны бачыць толькі непасрэдных сваіх прыгнятальнікаў, якіх ён лічыць сваімі галоўнымі ворагамі. Хто мае мала, той ня хоча мець яшчэ меней. З гэтай прычыны народ баіцца, што ў выніку аслабленьня вышэйшай улады яго найбліжэйшыя прыгнятальнікі, не адчуваючы над сабой ні якога кантролю, яшчэ больш зьнахабнеюць і ня будуць ведаць межаў у сваіх бясчынствах. Вось чаму такі народ будзе заўседы абагаўляць моцную ўладу і чакаць ад яе міласьці і ратунку.

Аднак больш за ўсіх у цэнтралізьме зацікаўлена бюракратыя-як партыйная, так і дзяржаўная. Гэта і зразумела. Цэнтралізацыя ёсьць тая глеба, на якой буйна ўзрастае і пышна квітнее бюракратычны чартапалох. Такім чынам, за цэнтралізм стаяць дзьве самыя магутныя сілы, два самыя крайнія антыподы, інтарэсы якіх могуць так пачварна супасьці толькі ў пачварным грамадзтве: усемагутны творца багацьцяў і бясьсільны ўладар бяспраўя-працоўны народ і ўсемагутная сваімі неабмежаванымі правамі і ўладай бюракратыя. У гэтым і галоўная прычына таго, что цэнтралізацыя ўрэшце рэшт бярэ верх над дэцэнтралізмам.

Галоўным носьбітам ідэі дэцэнтралізацыі зьяўляецца гаспадарчая арыстакратыя: дырэктары прадпрыемстваў і саўгасаў, старшыні калгасаў і т.п. Яны толькі фармальна лічацца прадстаўнікамі дзяржавы або выбраньнікамі народа. Фактычна ж яны-поўнаўладныя гаспадары матэр'яльных багацьцяў краіны. А хто мае шмат, той хоча мець яшчэ болей. Валодаючы ўсімі багацьцямі, гэтая арыстакратыя жадае мець і поўную, неабмежаваную ўладу. Дасягнуць яе можна толькі цераз дэцэнтралізацыю, г.зн. цераз аслабленьне вышэйшай улады. Новаяўленым фэўдалам удаецца сяды-тады дабіцца некаторых уступак у сваю карысьць, але толькі ўступак. Дэцэнтралізацыі жадае і некаторая частка інтэлігенцыі. Часцей за ўсё гэта добрыя спэцыялісты, якія творча працуюць і якія свабодна могуць абысьціся без панцканьня вышэйстаячых бюракратаў.

Як бачым, ні цэнтралізацыя, ні дэцэнтралізацыя не зьяўляецца сапраўдным выражэньнем інтарэсаў працоўных. Яны ўсяго толькі формы суперніцтва дзьвух пануючых у нас груповак. Народу патрэбна самая шырокая і паслядоўная дэмакратызацыя ўсяго нашага жыцьця. Пакуль яе няма, датуль нельга нічога добрага чакаць. У дэмакратызацыі наша выратаваньне.

* * *

ВОДПАВЕДЗЬ

На ваш папрок, што шмат нам далі
Скажу я вам такое слова:
Вы Дастаеўскага ў нас узялі,
Узамен нам даўшы Мураўёва.

Наш Дастаеўскі крыж няволі
За вашу волю нёс бясстрашна.
Ён азарыў з сардэчным болем
Пацёмкі вашых душ няшчасных.

Ваш Мураўёў расьпяў на крыжы
Тых, хто паўстаў за нашу волю,
І Кастуся зару згасіўшы,
Нас цемрай гвалту абязволіў.

Вы нас бязбожна абкрадалі
Ці то ў стары час, ці ў то [illegible]:
Вы Дастаеўскіх у нас бралі,
А нам давалі Мураўёвых.

Пазабыўся ўсяго наш народ у няволі,
Але сьцяганосцаў ня страціў сваіх.
І ворагаў гэта трывожыць найболей,
І ў лютасьці [illegible] кідае ад гэтага іх,

Бо ведаюць, што [illegible]
Часу ль адраджэньне народу ўсяму,
Як прагнуць трымаць іх у пастраху,
Як мараць [illegible] засадзіць у турму.

За ўладай царскай, панскай, фашысцкай
Кідалі ў нябыт нас, ды выжылі мы.
Мы выйдзем жывымі й з-пад улады савецкай
І ведаць ня будзем больш жахаў турмы.

Ніхто ў нас у рабстве застацца ня змусіць,
Бярвем мы ўсяробна сваё [illegible].
Той час набліжайце, сыны Беларусі,
Уздымаючы вышай Радзімы сьцяг!

ГУТАРКУ ВЕЎ СЫМОН БЕЛАРУС

# БЕЛАРУСКІ ІМЕНЬНІК

Альгерд Пакалюбіч

## Мужчынскія Імены

...А...

1. Адам – адно з самых папулярных на Беларусі Іменаў. Толькі ў XVI ст. ўзгадваецца ў помніках пісьменнасьці 110 разоў /М.Бірыла. Беларуская антрапанімія. Мн., 1966, далей: Б.А.66г./. Яго насілі такія знакамітыя людзі, як:
   - Адам Міцкевіч;
   - Адам Гінорык Кіркор, грамадзкі дзеяч, публіцыст, выдавец і гісторык XIX ст.;
   - Адам Гіляры Гуриновіч, паэт-дэмакрат, фальклярыст, рэвалюцыянер XIX ст.;
   - Адам Станкевіч, выдатны беларускі сьвятар, гісторык і публіцыст, лідэр Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі, закатаваны сталіністамі.

   Адась /-ка/, Адамчык, Адамей /Дамейка/, Адаш, Адамец, Адамка.

2. АДВАРД – Імя належыла:
   - Адварду Жалігоўскаму, паэту, філосафу, рэвалюцыйнаму дзеячу XIX ст.;
   - Адварду Паўлавічу, удзельніку паўстаньня 1863 г.:,
   - Адварду Пякарскаму, славутаму падарожніку XIX ст.

   Адзя, Варшік, Верас, Варты, Эдаш /Едрусь/.

3. АДЗІЯН – пазначанае ў выданьні "М.Бірыла. Беларуская антрапанімія, Мн., 1969", далей: Б.А.69г.

   Адзя, гл. на Яна.

4. АЗАР – у помніках XVI-XVII ст.ст. ўзгадваецца 9 разоў /Б.А.66г./
   - Азар, 1614 г., Аршанскі павет;
   - Азар Ключнік, 1681 г., Магілеў.

   Азарка, Зарук, Азарчык, Зарыш.

5. АЛАІЗ – пазначанае ў выданьні "Слоўнік асабовых уласных Іменаў. Мн. 1965, укл. М.Р.Суднік", далей: С.С.65 г.

   Алюк, Зарук, Алёйза ...

6. АЛЕСЬ – вельмі распаўсюджанае Імя. У XVI-XVII ст.ст. зафіксаванае 143 разы ў розных варыянтах. Належала:
   - Алесю Гаруну, паэту XX ст;,
   - Алесю Бурбісу, грамадзкаму ды тэатральнаму дзеячу XX ст.,
   - галоўнай постаці рамана У.Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім" – Алесю Загорскаму.

   Алесік, Лесь, Лесік, Алекса, Лекса, /А/Ляхно.

7. АЛІГОР – С.С.65г.

   гл. Альгерда

8. АЛІЗАР – у XVI-XVII ст.ст. 7 разоў сустракаецца на тэрыторыі Берасьцейшчыны ды Гарадзеншчыны /А.Усьціновіч. Антрапанімія Брэстчыны і Гродзеншчыны. Мн., 1975, далей: У.А.75 г./
   - Алізар Ганідовіч, 1541 г.

   Алізарка, Лізарчук, Аліч, Аліз, Зарук.

9. АЛЬБІН – Альбін Стэповіч, сьвятар і паэт міжваеннага часу /XX ст./

- Альбін-Рагвал-Алёйза Крыштофіч з Дубатыньня, персанаж рамана "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" У.Караткевіча

Боля, Альбась /-усь/, Альбук, Альба /ш./

10. АЛЬБУТ - агульна вядома, што ў назвах паселішчаў, рэкаў і г.д., утвораных ад імя заснавальніка /адкрывальніка/ ці названых так у сувязі з нейкай падзеяй, захавалася багата формаў асабовых уласных іменаў, якія са штодзённага жыцьця зьніклі.

Далей яны будуць пазначацца літарай Т - з тапанімікі.

гл.Альбіна /Аль/

11. АЛЬВАС - Т; Б.А.69г.

Алюк, Альвук, Альчык, Ал/ь/, Альваш.

12. АЛЬГЕРД - вялікі князь Вялікага княства Літоўскага; пры ім беларуская мова была абвешчаная дзяржаўнай;
- Абуховіч-Бандынэлі, пісьменнік XIX ст.

Альгесь, Гердась, Алюк, Альгук, Альгей, Альгаш.

13. АЛЬГІМОНТ - унук Альгерда, сын Скіргайлы, князь наваградзкі.

Моньцік, Манук, Алюк, Алюсь, Альгей, Гімант, Монташ.

14. АМБРАЖЭЙ - на працягу XVI ст. ўзгадваецца 78 разоў.
- А.Вайцаховіч, 1556 г. /У.А.75г./;
- А.Станіслававіч, ваявода біскупа віленскага XVI ст.

Брожык, Брасюк, Амрос, Амброс, Абрук, Амбрук, Аблажэй.

15. АНЁЛ - А.Доўгірд, мысьляр XVIII-XIX ст.ст.

Нёлка, Нялук, Анёлак, Анук, Анчык, Нёлаш.

16. АНТОН - імя вельмі папулярнае сярод беларусаў пад час міжваеннага адраджэньня;
у помніках XVI-XVIII ст.ст. ўзгадваецца 62 разы.
- А.Мішкевіч, 1528 г. /Б.А.66г./;
- А.Абрамовіч, кампазытар XIX ст.;
- А.Луцкевіч, палітычны ды культурны дзеяч XX ст.

Антонка, Антось, Антанюк, Антуш /Антук, Ант/

17. АПАЛІНАР - А.Гараўскі, мастак XIX ст.;
- А.Пупко, знакаміты разьбяр. XX ст.

Польцік, Палюк, Полюсь, Поль, Апалін, Полюш.

18. АПАНАС - у XVI-XVIII ст.ст. ўзгадваецца 77 разоў.
- А.Анісімовіч, 1528 г.
- А.Андруховіч, 1552 г. /Б.А.66г./

Понік, Панук, Поньцік, Панчук, Пан, Панча, Панаш.

19. АПІМАХ - у XVI ст. зарэгістраванае 2 разы.
- А.Бухавецкі, магілеўскі шляхціц, 1578г. /Б.А.66г./

Пімась, Пімук, Пімча, Апімаш.

20. АРСЕНЬ - Б.А.66г. /рэканструяванае па сьпісе беларускіх прозьвішчаў, далей - СПБ/
- А.Загорны, дыктар беларускай праграмы радыёстанцыі "Свабода".

Арсенька, Арсенік, Арсюк, Аршук, Арчук, Арча, Арсей.

21. АСТАХ – 67 разоў зарэгістраванае у помніках ХУІ-ХУШ ст.
- А.Валовіч, стараста берасцейскі, ХУІ ст.;
- А.Тышкевіч, археоляг, XIX ст.

Сташка, Сташук, Стах, Сташэня, Асташ /Астап/.

22. АСТРАВІТ – Т

23. АСТРАМЕЧ – Т.

24. АЎГЕН – А.Хлебцэвіч, нашанІўскі пісьменьнік;
- А.Бартуль, паэта міжваеннага часу;
- А.Барычэўскі, літаратуразнаўца, ХХ ст.

Генік, Аўгук, Аўгусь, Аўгуль, Аўгіяш, Геняш.

25. АЎГУСТЫН – на працягу ХУІ ст. ўзгадваецца 110 разоў.
/Густын, Яўгустын/
- А.Багдановіч, 1567 г.
- А.Тамковіч, 1567 г. /Б.А.66г./

Аўгусьнік, Аўгусьць, Аўгуль, Аўгута, Густын.

... Б ...

1. БАГДАН – у ХУІ-ХУШ ст.ст. зафіксаванае ў помніках 256 разоў.
- Багдан Карсаковіч, баярын мсьціслаўскі, /ХУІст./;
- Багдан Лаўрыновіч, ваяр Васілііскай харугвы, 1567г.
- персанаж "Хрыстоса..." У.Каратыевіча.
- Багдан Андрусішын, беларуска-амерыканскі пясьняр.

Данчык, Данік, Багданік, Багданка, Данук, Данусь, Богдаш, Богусь, Багдак, Багдаш.

2. БАГРЫМ – Т. Беларускае прозьвішча (Паўлюк Багрым – выдатны паэт XIX ст. з трагічным лёсам)

3. БАГУМІЛ – Масковіч, ваяр і пісьменьнік ХУП ст.

Богця, Богусь, Богась, Богут, Богша,

4. БАГУН – Б.А.69г.

гл.Багуміла.

5. БАГУСЛАЎ – толькі на Гародзеншчыне ды Берасьцейшчыне ў ХУІ-ХУШ ст.ст. ўзгадваецца 44 разы.
- Багуслаў Марковіч, 1541 г.;
- Багуслаў Аляшэўскі, 1670г. /У.А. 75г./

Славук; гл. Багуміла.

6. БАЗЫЛЬ /ВАСІЛЬ/ – у ХУІ-ХУШ ст.ст. ўзгадваецца 163 разы.
- Гаруварда, 1582 г.;
- Базыль Ляцецкі, 1564г. /У.А.75г./

Базылік, Базыльчык, Базылюк, Базыльчук, Базыяш, Базыляш, Базылен, Базылька.

7. БАЛЦАР – у ХУІ ст. зафіксаваны 4 разы.
- Балцар Валіцкі, 1567г.;
- Балцар Хрышчановіч, 1567г. /Б.А.66г./

Балько, Балец, Балюк, Баль, Балаш.

8. БАЛЯСЛАЎ – Калышка, палкоўнік у паўстаньні 1863 г.;
- Баляслаў Пачопка, літаратар міжваеннага часу ХХ ст.

Боля, Балюк, Болюш, Славук ..,

9. БАНАДЫКТ /БЕНЯШ/ - у ХУІ-ХУШ ст.ст. ўзгадваецца 19 разоў.
- Банадыкт ВаловІч, дзяржаўца ВалоскІ, 1567г.;
- Банадыкт ЖдановІч, 1582 г. /Б.А.66г./
- Банадыкт ДыбоўскІ, навуковец, удзельнІк паўстання 1863 г.

Банась, Банук, Банадысь, Банась /Беняш/

10. БАРКУЛАВ - Т.;
- Баркулаб Корсак, кІроўца роты беларускага войска ў бІтве пад Вулай І Дуброўнай 24.I.1564г.

Барця, Барук, Баркуль, Баркаш.

11. БАРНАТ - узгадваецца 27 разоў у ХУІ ст.
- Барнат БагдановІч, 1528 г.;
- Барнат РемашкевІч, 1567г. /Б.А.66г./

БарцІк, Барнась, Барнук, Барнар, Байнар, Барнаш.

12. БАРТАШ - зарэгІстраванае ў ХУІ-ХУШ ст.ст. 117 разоў.
- Барташ ПрасвІловІч, 1528 г.;
- Барташ Тур, 1567 г. /Б.А.66г./

Барця, БарцІк, Бартук, Бартуль, Барча, Барт, Бартуш.

13. БЕЛАПОЛЬ - "Легенды І паданьнІ". ст.78

14. БЕРАЖ - Т.

15. БОГУТ /БОГУШ/ - БагацІвІновІч, 1401 г.;
- Богуш БарысовІч, 1541 г. /У.А.75г./

Богдзя, Багук, Богусь, Богуць, Богаш,...

16. БРАНІСЛАЎ - Б.ЗалескІ, мастак І пІсьменьнІк пач. XIX ст.;
- БранІслаў ТарашкевІч, навуковец, грамадзкІ І палІтычны дзеяч XX ст.

БронІк, БронІсь, Брончык, Славук, Бранук, Брончa.

17. БРАСЛАЎ - легендарны князь /"Легенды І паданьнІ"/.
гл. Брачыслава.

18. БРАЧЫСЛАЎ - вялІкІ князь полацкІ, бацька Ўсяслава Чарадзея.

Бра/т/чык, Братук, Братуль, Брацей.

19. БУДА - Б.А.69г.

БудзІк, Будзька, Буд, Будась, Будай, Будаш.

20. БУДАВЕЙ /БУДАВЕСТ/ - выданьне "Беларуская анамастыка. Мн.1977
далей: Бел.ан.77г.
- легендарны вялІкІ гетман.

Будзька, ВесыцІк, Веська, ВесІк, Вест, Вястун, Будаш.

21. БУДЗІВІД - князь ВялІкага княства ЛІтоўскага.

ДзІвук, ДзІвар, ДзІваш; гл. Буду.

22. БУДЗІМЕР - легендарны князь.

Марук, Мерча, Мераш; гл.Буду.

23 БУДРЫС - С.С.65 г.

24. БУДСЛАЎ - Т.

Славук, гл.Буду

# З НАШАЕ ПОШТЫ



АДЭЛЯ МАРЭ..

ЯК НА НАШЫМ СЬВЯЦЕ "ТАЛАКА" БЫЛА ...

Хутка ўжо зіма сыходзіць.
І на ейны адыход
Загадалі ў гаркаме
Гарадскі склікаць народ.
"Што пачулі мы той раз? –
Будзе масьленіца ў нас!"
"Шыш, – бубніць мая душа, –
Пагукаем мы сьпярша".
І па ўсей па Беларусі
Разьляцеўся голас у скрусе:
"Дасылайце кнігі, песьні,
Дысэртацыі, браты,
Ну а я ўжо на мейсцы
Разьбяруся – што куды.
До нам спацІ! Ужо час
Запрасіць вясну да нас!"
Тэлефон гудзіць, як чмель
Увесь вечар, увесь дзень.
Прыязджаюць у адведкі
Беларусі маей дзеткі.
І гавораць хто што можа.
"У вас гуканьне...? Дапаможам!"
Гавару па тэлефоне:
"Мне міжгорад. Дайце Волю", –
Не зваляю дурака –
У "Талаце" свая рука.
Воля болей не драмала:
"Будуць песьні...Песень мала?
А мо дзеяньне прывезьці?
Правяліцца мне на мейсцы,
Калі ўсе мы рукі зложам".
...Хто тады нам дапаможа?

А ў гаркаме увесь час:
"Чым парадуеце нас?"
Мы сцэнар на стол паклалі.
"Все прекрасно. Так и знали.
Только, может быть, вначале
Нам поставить з вёски хор?
У нас з ними дагавор."
"Будзе хор, але жа потым."
"Як хаціце. За работу!"
Працавалі мы з ахвотай
Недарэмна дзень пры дні,
А за ўсе мае турботы
Інтэрната выдалі.
Праўда, толькі на паперы
Падпісалі па чарзе,
Потым выштурхалі ў дзьверы:
Падпісалі, – дык ня ўсе!
Падказалі – пасьля сьвята
Будзе вынікаў відно.
"Пастарайцеся, рабяты,
З намі разам – заадно."
Працавалі да зьнямогі,
Абабілі ўсе парогі;
Мець да сьвята незалішне
Беларускія афішы.
Усё паспелі мы як раз,
Заўтра сьвята – ў добры час!
Удзень – на працы. Мне – званок:
"Хто дазволіў? – як папрок –
Хто паклікаў "Талаку"?
Даць па шыі дураку!
...Нам з абкома пазванілі
І усіх прадупрэдзілі.
Едзе сто, а то і болей...
Ну поплачете!" "Даволі..."
"Будзе мітынг – мы ўсіх вас
Пазвальняем у той жа час.
То ж такая бяка-бука!"
Бяру хлопцаў на парукі.
Трубкай "плясь" па тэлефоне!
Ну а ён жа звоніць, звоніць!

П

Дзея ідзе. Сумеліся дзеткі:
Лезуць прагныя кабеткі,
Лезуць дзядзькі ў капелюхах.

"Ты куда?" "Ды мне б паслухаць".
I натоўп вакол пляцоўкI
Шчыльна стаў, але ж нялоўка,
Бо нIкому не вIдаць
I нIчога нI чуваць.
Дзея скончана... ЗамIнка.
Непрывабная карцIнка:
Разыходзiцца цI не?
Сум агортвае мяне.

Час мIнае, час бяжыць...
"Талака" жа не сьпяшыць.
I чакае, так як ч
Уся партыйная гайня,
Сам начальнIк КДБ
З таямнIцай на Iлбе,
ДзядзькI ў штацкIм, дзядзькI ў строях
У кIшэнях рукI точаць,
I чырвоныя фуражкI...
Вой-вой-вой! АвохцI! Стра-шна...




x x x

Люд гаротны, люд зьнямелы,
Для цябе гучаць са сцэны
БеларускIя вясьнянкI,
Словы, жарты, забаўлянкI,
ГукI скрыпкI I гIтары –
РазьбIвайцеся па парах
I скачыце хто як можа,
Не шкадуйце ботаў, ножак...
– Вас вIтае "Талака".

Слоў – крынIца. Дум – рака...
I цIхенька пад шумок
Самвыдатаўскi лIсток
ПрадалI табе I мне.
Сам начальнIк КДБ
Не адмовIўся чытаць:
"Дазваляю". Тьфу! Псямаць!
Во пранесла, дык пранесла!
Во пралезла, дык пралезла!
"Третий номер БНФ
Разошелся по толпе!"

Сказ няпоўным быў бы гэткIм,
Каб забылася я, дзеткI,
На малойцаў з ДНД:
РукI сьціснуты ў злабе,
Па расейску чыста-чыста:
"Вот же националисты!
Завернуть бы вам головы!
Написать бы Соколову!
Как в провинцию пролезли?
Счас дадим им!"
"На вось – трэсьнI!
Бо спужалIся партыйцы:
"Бойку зладзяць? Нам жа тыцнуць!
Дзе такIя знойдзем мейсцы,
КалI скIнуць з нашых крэслаў?
ХIба ёсьць яшчэ краIна,
Каб народ зьгIнаў так сьпIны
Для сваIх уладароў –
Дармаедаў I аслоў?"

Пусть запомнит "Талака" –
Бойня сдержана...пока".

III

На наступны дзень адразу
Па высокім на наказе
У гаркам іду адказваць
"Как прошел народный праздник".
Білі-білі дзьве гадзіны:
"Снять вас надо. Сказ единый."
"Зьняць за што?"
"За то, что вы под эгидою горкома
... Свае ладзіце правы.
... Свае ладзіце законы.
Есть у нас одна печать!
Самиздат ваш..."
"Што?" "Маўчаць!"
"Вы нас не предупредили.
Как могли?!" І - білі-білі.
Не рукамі - далібог!
Але дай ім толькі волю,
То яны за шыю "хоп",
І не бачыць мне ніколі
Ні лясочкаў беларускіх,
Ні азёраў беларускіх,
Хіба толькі "талакоўцаў",
Як схапілі б гэтых хлопцаў.
Але дзякуй богу, час -
Ён працуе і на нас!

"Заявление пишите"
И работу поищите"
Як шукаць /халеры-трасцы!/,
Калі гоняць з кожнай працы:
- Русский выучите. - Потом!
Приходите на работу!
... Інтэрнат? Адказ кароткі -
"Ёй унядрыцца трэба ўпотай,
Каб праводзіць там работу,
Ганьбіць усім савецкі лад,
Бо яна - як той салдат,
Толькі арміі варожай".
... Дзе ж жыць і скуль браць грошы?
Шчэ праз дзень, па распарадку
Выклікаюць бацьку, матку.
Што яны пачулі там -
Хай рашае кожны сам.
Ды павінна быць выснова:
Нам цяпер усім вядома,
Што баіцца, як агня,
Партакраты гайня
"Талакі" /і ў тым жа родзе/.

Думай,
Думай,
Мой народзе!

1989 г.

## БЕЛАРУСКІ ІМЕНЬНІК

АЛЬГЕРД ПАКАЛЮБІЧ

/працяг з 8 бачыны/

25. БУЖА /Н/ - Т.
Бузька, Бузук, Бужач, Бужча.

26. БУЙВІД - Б.А.69г.; Т.
Буйко, Буюк, Буйны, Буяш.

27. БУЛАК - Б.А.69г.

28. БУС - павадыр старажытных пляменаў на тэрыторыі Беларусі.
Бусь, Бусьлік, Бусюк, Бусел, Бусян.

29. БУСЯЖ - Т. гл. Буса.

30. БУТАУТ - сын вялікага князя Альгерда.
Бутька, Бутась, Бутюк, Буташ.

31. БУТРЫМ - легендарны князь /"Легенды і паданьні"/;
- у XVI–XVIII ст.ст. узгадваецца 245 разоў.
- Бутрым Легнаровіч, 1528 г.;
- Бутрым Міхайліч, 1528г. /Б.А.25г./

Бутька, Бутрась, Бутрык, Бутрыс.

32. БЯЛЯК - Б.А.25г.; 69г.

Лянок, Бельчук, Белюк, Белух, Белька, Беляй.

/працяг у наступным нумары/

СЬЦЕРАЖЫСЯ ПАТРЫЯТЫЧНЫХ КЛЮБАЎ

/працяг, пачатак на бачыне 2/

# Foreign Report

Published by The Economist Publications
25 St James's Street, London SW1A 1HG
2052 February 16 1989

## Beware of patriotic clubs

**We have acquired a secret briefing document of the Soviet Communist party instructing members how to deal with the new wave of informal "patriotic clubs" which, in the eyes of party hardliners, constitute a major peril to the party's *status quo*. The document refers specifically to Byelorussia. We believe similar documents exist for other republics.**

**After identifying the principal groups, and giving a biased account of their activities, the document calls for a determined effort at re-education. The party says:**

**• Ideological committees should be established in workplaces to identify "extremist elements and groups" and to restore the "social-political situation" by**

...нікаў цьвёрдай лініі, зьяўляюцца галоўнай небясьпекай для партыйнага "статус кво". Дакумант тычыцца Беларусі. Але мяркуем, што падобныя дакуманты існуюць і для іншых рэспублік.

У інструкцыі адзначаюцца галоўныя групоўкі, даецца тэндэнцыйная характарыстыка іхняе дзейнасьці, дакумант заклікае да рашучых высілкаў дзеля перавыхаваньня. Партыя кажа:

✱На прадпрыемствах павінны быць створаныя ідэалягічныя камітэты для выяўленьня экстрэмісцкіх элемэнтаў і груповак; яны павінны аваднавіць "грамадзка-палітычнай сытуацыяй", прымусіўшы экстрэмістаў прызнаць свае памылкі.

✱Калі гэта ня ўдасца, то экстрэмісцкія элемэнты павінны растлумачыць перад калектывам свае "нясталыя ўчынкі і пазыцыю", якія неабходна асуджаць.

✱Бацькі дзяцей, якія ўваходзяць у незалежныя суполкі, павінны быць выкліканыя да партыйных кіраўнікоў для гутаркі пра паводзіны дзяцей і папярэджаньня пра "небясьпеку нацыяналістычных тэндэнцыяў у іхніх дзяцей".

✱Партыя павінна больш дагаджаць народу. Ей неабходна прааналізаваць "палітычную і маральную сытуацыю" і больш клапаціцца пра тое каб задаволіць надзённыя патрэбы, найперш асабістыя, і пазбавіцца бюракратызму.

✱"Палітычна сталыя" члены партыі павінны быць прымацаваныя да мясцовых газэтаў і часапісаў. Ідэолягі павінны тлумачыць журналістам, якія падтрымліваюць незалежныя суполкі, памылковасьць іхніх паводзінаў.

✱Партыйныя функцыянэры на прадпрыемствах, дзе ёсьць памнажальная тэхніка, павінны быць асабліва пільнымі, каб не дапусьціць ніякага "самвыдавецтва".

У дакуманце тлумачыцца, што асноўнай мэтай партыі зьяўляецца паляпшэньне вытворчай дысцыпліны і рост прадукцыйнасьці працы, забесьпячэньне таго, каб партыя служыла народу і садзейнічала распаўсюджваньню "нэгатыўных адносінаў" да Народнага Фронту за перабудову, які трымаецца незалежных поглядаў, сярод простых людзей.

Старац Альгерд Богдан

# СУМОЎЕ НА БЕЛАРУСI.

/ПозIрк з аблокаў/

Мяркую: праз недарэчнасьцI ў нашай гIсторыI трэба пераступIць, плённае – каб стаць для новага Адраджэньня.

Недарэчнасьць самая апошняя: нIводнага Праваслаўнага сьвятара не запрасIлI на Устаноўчы Зьезд БНФ ...

У пляне сьвецкIм для беларускай мовы, здаецца, надыходзяць някепскIя часы: нават МенскI Галком у гэтым пытаньнI Iмкнецца быць больш "прававерным", чым Народны Фронт. Што-ж, нIводнаму з Саўлаў Гасподзь не замIнае стаць Паўлам. Нават СавелIю Паўлаву ...

А вось у пляне духоўным трывога не пакIдае мяне. ЦупавIнкI, якIя зьвязваюць жывую беларускую мову зь нябеснымI акIянамI Сьвятой Царкоўна-Славянскай мовы I Апостальскай ЛатынI, зрабIлIся зусIм танюткIмI. Вось-вось абарвуцца ...

I шмат хто – /з нашых малаверных, але нацыянальна-гарачых галоў/, – даруй Iм, Божа, бо ня ведаюць, што твораць, – хочуць зусIм абарваць Iх. Ня дай, Божа, каб гэта сапраўды адбылося!..

Выкажу некалькI меркаваньняў, якIя, вIдаць, мала каму спадабаюцца.

Iдэальным у Праваслаўных Храмах на БеларусI мне бачыцца двухмоўе беларуска-Царкоўна-Славянскае: Набажэнства – па-Царкоўна-Славянску, казаньнI – па-беларуску; у КаталIцкIх – двухмоўе беларуска-ЛацIнскае: Набажэнства – па-ЛатынI, казаньнI – па-беларуску.

Прарастаньне жывой беларускамоўнай стыхII – праз сьвятароў Праваслаўных – у стыхIю Царкоўна-Славянскую, а – праз сьвятароў каталIцкIх – у Латынь, – дасьць у перспектыве магутны рэнэсанс духаносных плыняў беларускай мовы I зьяў духоўнасьцi – праз Iх /паэзII, рэлIгIйнай I фIлязофскай творчасьцI I г.д./. /З захаваньнем I разьвIцьцём плёну сьвецкIх лIтаратараў I мовазнаўцаў, якIя даглядаюць, у асноўным, фальклёрна-"матэрыяльныя" пласты мовы./

"КаранI – ў Зямлю, галIны – ў Нябёсы". Для беларускага Моўнага Дрэва гэты запавет праўдзIцца праз Iдэю двухмоўя беларуска-Царкоўна-Славянскага I беларуска-ЛацIнскага ў ХрысьцIянскIх Храмах на БеларусI I сьвецкага беларуска-руска-ангельскага трохмоўя. Гэтая формула – двухмоўя па духоўнай "вертыкалI" I трохмоўя па сьвецкай "гарызанталI" – можа стаць асновай стратэгII Адраджэньня нашага народу – з перспектывай на III тысячагодзьдзе. АбапIраючыся на Закон аб ДзяржаўнасьцI беларускай мовы – такая формула дасьць аснову для дынамIчнай раўнавагI, дыялектычнай гармонII прарастаньня Беларускага Дрэва ў эўрапэйскIм I ў сусьветным доме, у Вечным Дрэве Жыцьця. Духаносная сумоўная Беларусь можа стаць адной з жыцьцядайных  п а л я ў  у сусьветнай сябрыне народаў, узорам палIфанIчнай еднасьцI Усходняга I Заходняга крылаў Хрысьціянства, шматфарбнай лучнасьці ўсIх ягоных адценьняў.

/Шлях I да гэтай гарачай формулы ў розных варыянтах кранalIся I ў вольнай беларускай прэсе першых дзесяцIгодзьдзяў нашага веку, I раней, I пазней. Фактычна ён кIраваўся ў сваёй творчасьцI Скарына. ЦIкава было-б сабраць Iх усе – ў адно, у кнIзе пад назвай: БЕЛАРУСКАЕ ДРЭВА – У СУМОЎI НАРОДАЎ, У ДРЭВЕ ЖЫЦЬЦЯ./

Два словы – пра ВунIяцкIя Храмы.

Я, нажаль, нIколI ня быў на беларускIм набажэнстве ў Храме а. Аляксандра Надсона, што ў Лёндане. Але чуў уражаньнI людзей, якIя там былI. I калI, скажам, такI ангелец, як Джым ДзIнглI /пра якога вясной селетняй напiсаў "ЛIМ"/, пабыўшы на Набажэнстве ў гэтым Храме, пасумовIўшыся з а. Аляксандрам, – загаварэў беларушчынай, пачаў спрыяць беларускай справе ў АнглII, – значыць гэта здорава!.. Я-б вельмI хацеў, каб такIя Храмы былI й на БеларусI ...

Але я супраць таго, каб спакушаць нашых Праваслаўных I КаталIцкIх сьвятароў пераходзIць да ВунIяцтва, бурыць тое дасканалае, што склалася вякамI. ХопIць, набурылIся ўжо – не разумеючы, што такое Боская ПалIфонIя, мIралюбная палIфонIя гIсторыI. Я за тое, каб  к о ж н ы  Голас

шматгалосься Хрысьцьянскага нес у век! сваю Індывідуальнасьць, свой тэмбр і водар. Каб і на Беларусі, і ў сьвеце - адкінуўшы недарэчную чорную рэўнасьць - гучала тое самоўе Хрысьцьянскіх плыняў, якое склалася й высьпела гістарычна. Каб давалі свой плён Вечнасьці ўсе магутныя ствалы, што вырасьлі з Хрыстова Кораня, - і мноства нацыянальных галінак на іх.

Дазвольце завершыць чатырохрадкоўем:

+

СУМОЎЕ Ў БЕЛАРУСКІХ ХРАМАХ

Хай Сьвятая Царкоўна-Славянская
І Апостальская Латынь
нашы Храмы поўняць Хрысьцьянскія -
разам з Мовай Айчыны.

Амінь!

# АБВЕСТКІ; АБ'ЯВЫ; АБВЕСТКІ; АБ'ЯВЫ.

* * *

**Надышоў час афармленьня падпіскі на газэты й часапісы на 1990 год. За апошнія гады амаль што ўся прэса, у тым ліку шмат якія выданьні ў нас на Беларусі, стала больш зьмястоўная, дэмакратычная, цікавая. Выключэньнямі застаюцца кансэрватыўныя выданьні кшталту "Политического собеседника" і сумна вядомага "Вячэрняга Мінску", можна згадаць баранавіцкае "Знамя коммунизма", што жыве катэгорыямі застойнага часу.**

**Відавочна ўзрос аўтарытэт нашых беларускамоўных выданьняў. А гэта зрабіць было, пэўне, вельмі няпроста ў варунках вострай канкурэнцыі з саюзнымі й прыбалтыйскімі выданьнямі, вандэйскага сьветапогляду ідэалягічнага кіраўніцтва і катастрафічнага цяжкага становішча роднай мовы на Беларусі. Але рэдакцыі добра папрацавалі: значна пашырылася кола аўтараў, у тым ліку вядомых беларускіх вучоных, а таксама маладых дапісчыкаў, зьявілася многа новых цікавых рубрыкаў. Дзякуючы публічнасьці /а гэта, ведама, яшчэ не свабода слова/ быў зьняты шэраг табу. Гэта дазволіла часткова асьвятліць асобныя белыя плямы беларускай гісторыі старажытнага і савецкага пэрыядаў, гэтак адкрыць чытачам шмат славутых імёнаў дзеячоў беларускай культуры.**

**Асабіста я зь вялікай цікавасьцю чытаю наступныя беларускамоўныя выданьні, беларускія па мове, зьмесьце й духу:**
**газэты— "Літаратура й мастацтва", "Ніва" /Польшча, г.Беласток/;**
**часапісы— "Крыніца", "Беларусь", "Маладосьць", "Полымя", "Родная прырода". На жаль, шмат хто яшчэ ня ведае і з гэтай прычыны не выпісвае іх. Лічу, што кожны беларус павінен выпісваць хаця б адно беларускамоўнае выданьне. Нагадаю іх падпісныя зьвесткі.**

| №№ п/п | Выданьні | Індэкс | Кошт |
|---|---|---|---|
| | Газэты: | | |
| 1. | Літаратура й мастацтва | 63856 | 5-16 |
| 2. | Ніва /Польшча, Беласток/ | 36911 | 10-40 |
| | Часапісы: | | |
| 3. | Беларусь | 74820 | 4-20 |
| 4. | Полымя | 74985 | 12-00 |
| 5. | Маладосьць | 74957 | 7-20 |
| 6. | Крыніца | 74824 | 3-00 |

| | | |
|---|---|---|
| 7. Родная прырода | 74926 | 3-00 |
| 8. Спадчына | 74968 | 2-40 |

Аформіць падпіску можна ўжо зараз у любым адзьдзяленьні "Саюздруку" або ў адзьдзяленьні сувязі.

Уладзімер Вярховіч.
15.07.89г. Менск.

## Надзейны сродак

Абвяшчаецца падпіска на перыядычнае выданьне БНФ "Адраджэньне" "Навіны". Падпіска прызначана для асобных грамадзянаў Беларусі, што жывуць па-за яе межамі, а таксама для жыхароў Беларусі па месцы жыхарства якіх няма буйных фармаваньняў Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне", г.з. для жыхароў вёсак, невялічкіх раённых мястэчак. Для Менску, абласных местаў, а таксама для буйных мястэчак падпіска не праводзіцца!!! "Навіны" БНФ "Адраджэньне" будуць распаўсюджвацца ў іх цэнтралізавана праз раённыя Рады.

Для падпіскі на адзін асобнік "Навінаў" просім перавесьці 5 /пяць/ рублёў /паштовым пераводам/ на адрас сябра Сойму БНФ "Адраджэньне" Бяляцкага Аляксандра Віктаравіча: Беларусь, м.Менск, 220600, вул.Францішка Скарыны, д.3, пк.35. Будзьце ўважлівыя, ахайна ды дакладна пішаце зваротны адрас для карэспандэнцыі. Пасьля таго, як пераведзеныя 5 рублёў будуць вычарпаныя/Вам будзе дасланая адпаведная колькасьць нумароў "Навінаў"/, дык для працягу падпіскі Вы атрымаеце паведамленьне.

Паметайце!!! Падпіска на "Навіны" БНФ "Адраджэньне" надзейны сродак супроць дэзынфармацыі, якая пануе ў афіцыйным друку на Беларусі!

* * *

Менчукі і шаноўныя госьці Менску!

Прыдбаць літаратуру БНФ "Адраджэньне" Вы здолееце у Доме літаратара/Менск, вул.Фрунзэ,д.5/ у 306 пакоі /3-ці паверх/. Запытацца Алеся Емельянава /сябра Сойму БНФ "Адраджэньне"/ альбо Міколу Міхноўскага. Тэл 36-99-72. Праезд мэтрапалітэнам да прыпынка "Пляц перамогі".

* * *

Грамадзяне!

Для друкаваньня "Навінаў", Праграмы ды Статуту, а таксама іншых дакумантаў Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне" патрэбныя грашовыя сродкі. Просім аказываць апэратыўную фінансавую падтрымку.

Нагадваем, што пасьля паўстаньня Арганізацыйнага камітэту БНФ "Адраджэньне" быў выпісаны рахунак на сябра Аргкамітэта спадара Садоўскага Пятра. У хуткім часе гэты рахунак быў незаконна скасаваны. У сувязі з гэтым на Устаноўчым зьезьдзе БНФ была выказаная прапанова выпісаць рахунак у Вільні, зрабіўшы яго такім чынам недасягальным для беларускай бюракратыі.

Ніжэй падаем адрас цяперашняга рахунку БНФ "Адраджэньне", які выпісаны на старшыню Беларускага клюба "Сябрына" у Вільні:



г.Вильнюс , Жилсоцбанк, Номер счёта 164505, Код 731627, Номер сберегательной касы 8289/059, Лицевой счёт 9671, Стэху Валентину Владиславовичу.

# САРДЭЧНЫ ДЗЯКУЙ

* * *

Чарговы раз нагадваем усім чытачом "Студэнцкае Думкі", што напачатку гэтага году студэнцкая суполка "Сьвітанак" распачала збор кнігаў /разнастайных тэматаў, у тым ліку падручнікі/ для Беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельскі-Падляскім, што на Беласточчыне /Польшча/. Шмат нашых чытачоў адгукнулася на заклік зьмешчаны ў першым нумары "Думкі". На сёньняшні месяц рэдакцыя атрымала ўжо больш за 700 асобнікаў разнастайных кніжак. Рэдакцыя мяркуе, што багата хто яшчэ зьбіраецца далучыцца да гэтай высакароднай справы. Таму радзім крыху прысьпяшацца, бо ўжо напачатку восені "Сьвітанак" зьбіраецца пераслаць іх у Польшчу. Нагадваем, што дасылаць ці перадаваць іх можна на адрас рэдакцыі "С.Д." альбо спадару Юрасю Траяновічу/адказны/, зь якім можна дамовіцца пра сустрэчу затэлефанаваўшы яму /61-15-89- хатні-Менск/.

Рэдакцыя ад імя нашых суайчыньнікаў зь Беласточчыны зноў кажа шчыры дзякуй чарговым ахвяравальнікам:
спадару Пронічаву Уладзімеру, інжынэру Менскай фабрыкі Арджанікідзе;
спадарам Ігару Моўчану й Альбэрту Маславу, інжынэрам Цэнтральнай наладачнай управы "Прамсувязьэнэрганаладка".

* * *

На адрас рэдакцыі працягваюць паступаць грашовыя сродкі-ахвяраваньні нашых чытачоў, а таксама іншых спачуваючых грамадзянаў. Сёньня мы мусім адзначыць, што матар'яльна-фінансавы стан нашае часапісі крыху выраўнаўся. Гэта, відаць на падвышэньні ўзроўню нашае справы /самакрытычная заўвага рэдакцыі/. "Студэнцкая Думка" дужа ўдзячная сваім шчырым ахвяравальнікам:
спадару Уладзю Арлову, літаратару;
сяброям студэнцкага згуртаваньня "Крывічы" зь Менскага пэдагагічнага інстытуту.

**Студэнцкая думка** часопіс

НАШ АПЫТАЛЬНІК

1. Якія з матар'ялаў надрукаваных у "С.Д." Вам спадабаліся больш за усё? ____________
2. Пра што б Вы хацелі пачытаць на бачынах нашага часопіса? ____________
3. Пазначце, калі ласка, мейсца Вашае вучобы або працы, хатні адрас, тэлефон. ____________

"С.Д." чакае Вашых адказаў.

УВАГА !!!

Рэдакцыйная суполка зьвяртаецца да шаноўных чытачоў нашае часапісі са шчырай просьбаю дасылаць матар'ялы характару культурна-грамадзкага, палітычнага, эканамічнага, экалягічнага, навуковага, літаратурна-мастацкага, гумарыстычнага, абвесткі.

Наш адрас: Беларусь, 220100, места Менск, вул. М.Горкага, д. 143, кв. 65, Гуркову Алесю. Тэл. 34-42-78 - хатні.

Нумар падрыхтавалі: Барвенава Ганна, Сотнікаў Сяржук, Сабаленка Алесь, Міхно Ігар, Гуркоў Алесь.

Апрацоўка нумара прыпадае на канец ліпеня 1989 г. Перадрук з часопіса дазваляецца толькі са спасылкай на крыніцу. Нумар падрыхтаваны ў двух асобніках,раім усім сябрам нашае часапісі,якія будуць практыкаваць масавае памнажэньне выданьня, трымацца указу Прэзыдыўма Вярхоўнае Рады Беларусі.